# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 16 (529) Год XI — 17 КРАСАВІКА 1966 г. — Цана 60 гр.

**У НАЦЫЯНАЛЬНАЙ КАМІСІІ ВК ПАРП**

## ЧЫТАЛЬНІЦТВА

Нядаўна адбылося чарговае пасяджэнне Нацыянальнай камісіі пры Ваяводскім камітэце Польскай аб'яднанай рабочай партыі ў Беластоку. Гэтым разам Камісія абмяркоўвала чытальніцтва ў нацыянальнаменшасных асяроддзях Беластоцкага ваяводства.

Абмяжуемся да чытальніцтва на беларускай мове, якому, зрэшты, у абмяркоўцы і было адведзена найбольш месца.

Паводле справаздачы Ваяводскай бібліятэкі беларускую кніжку чытаюць на Беласточчыне ў пяці паветах. Ёсць яна там у 53 грамадскіх бібліятэках і 264 бібліятэчных пунктах. Разам 11 911 кніжак.

Паводле структуры кнігазбору становішча выглядае так: 56% — літаратура для дарослых, 36% — дзіцячая літаратура і 8% — літаратура не мастацкая. Сярэдняе выпазычанне на адну беларускую кніжку — 1.3 (сярэдняя ваяводская — 2.2).

У 1965 г. карыстала з беларускіх кніжак 2672 чытачы. У параўнанні з папярэднім годам наступіў спадак на 265 чытачоў (выявіўся ён толькі ў Гайнаўскім і Бельскім паветах).

Асноўнымі прычынамі слабой папулярнасці беларускай кніжкі ў нашым асяроддзі, падкрэслівалі дыскутанты, з'яўляюцца перастарэлыя кнігазборы. Навінкі беларускай літаратуры трапляюць да нас вельмі рэдка і з вялікім спазненнем. Характэрным будзе такі прыклад: калі ў 1960 годзе куплена ў бібліятэкі ваяводства 2 457 кніжак, дык у 1965 годзе ўсяго толькі 229 кніжак.

Хто ў гэтым вінаваты? Паводле інфармацыі кіраўніцтва Ваяводскай бібліятэкі — кніжны гандаль. Не рэалізуюцца заказы. Дырэктар Ваяводскай бібліятэкі звярнуў таксама ўвагу на вельмі складаную працэдуру закупаў: Дом кнігі пасля атрымання заказаў з паасобных бібліятэк і ўстаноў робіць зборны заказ і высылае яго ў кнігарскую складніцу ў Варшаве. Тая ў сваю чаргу перасылае заказ у «АРС Полёна». Цяпер заказ ідзе ў Міжнародную кнігу ў Маскву. Масква кіруе заказ у Мінск. Сапраўдная адысея!

Ці нельга скараціць гэту дарогу? Ці немагчыма сістэматычна рэалізаваць запатрабаванні нацыянальнага асяроддзя на літаратуру ў роднай мове? Камісія выдзяліла са свайго складу групу таварышаў, якія бліжэй вывучаць пытанне і апрацуюць прапановы з мэтай належнага развіцця чытальніцтва ў нацыянальным асяроддзі і дастатковага абяспячэння гэтага асяроддзя патрэбнай літаратурай на роднай мове. (рл)



Ш акоўні.
Фота Ул. Паўлючук

*УВАГА, ПІСЬМАНОСЦЫ!*
*УВАГА, ПАШТОВЫЯ УСТАНОВЫ!*
*УВАГА, «РУХ»!*

## ПАСТАЯННЫ КОНКУРС „НІВЫ"

*Рэдакцыя «Нівы» аб'яўляе пастаянны конкурс ў справе падпіскі на наш тыднёвік. Конкурсам ахопліваюцца ўсе пісьманосцы, паштовыя ўстановы, а таксама прадпрыемствы «Руху».*

*Конкурс наш будзе падзелены на кварталы. Пасля кожнага квартала (каляндарнага) будзем падводзіць вынікі. Тыя пісьманосцы, ці іншыя працаўнікі адказныя за падпіску, якія будуць мець найлепшыя дасягненні ў распаўсюджванні нашага тыднёвіка, атрымаюць узнагароды (таварныя боны). Асабліва будзем браць пад увагу становішча падпіскі «Нівы» ў папярэднім квартале.*

*Кожны можа атрымаць каштоўную ўзнагароду, калі сістэматычна будзе дбаць пра падпіску на «Ніву». Жадаем добрых вынікаў!*

## ДЭЛЕГАЦЫЯ ГП БГКТ у Прэзідыум ВРН у Беластоку

2 красавіка г. г. намеснік старшыні Прэзідыум Ваяводскай рады нарадовай у Беластоку Людвік Ахоцкі прыняў дэлегацыю ГП БГКТ у складзе: старшыня ГП БГКТ Вінцук Склубоўскі, сакратар ГП БГКТ Уладзімір Юзвюк і член Прэзідыума ГП БГКТ Аляксандр Баршчэўскі.

Дзеячы БГКТ паінфармавалі намесніка старшыні ВРН аб дзесяцігадовых дасягненнях беларускай арганізацыі, а таксама аб планах на будучыню. Варта адзначыць, што намеснік старшыні ВРН абяцаў сваю дапамогу ў пашырэнні выдавецкіх магчымасцей нашага таварыства, а таксама ў атрыманні лепшага будынку для нашага этнаграфічнага музея ў Белавежы.

На сустрэчы абмяркоўвалася таксама справа пабудовы інтэрнатаў у Бельску і Гайнаўцы. (рл)

*Мая заграніца (4)*

## ПАДАРОЖЖА Ў СЛОНІМ

Аўтобус з Гродна ў Слонім едзе шэсць гадзін. Божа мой, я быў здзіўлены доўгаю яздою: чамусьці здавалася мне, што да Слоніма, як з Беластока да Гайнаўкі.

Не даязджаючы да Алекшыц бачыў раку Свіслач, яшчэ замёрзлую і шырэйшую, чым у пагранічных Азяранах ці Баброўніках. Рэшта такая самая — пагоркі, маладнякі лесу, заглохлыя вёскі. Іншае — гэта старая шаша і беларускія надпісы на шляхаўказальніках. Здаецца, у Малой Бераставіцы бачыў помнік зубра. Немаведама чаму памаляваны ён на чырвань. (?) Аўтобусны паўстанак тут ля падножжа спаленага ўвайну касцёла на грудзе. Адсюль да маіх Крынак на Сакольшчыне рукою падаць. Калісьці хадзіў я з бацькам у поле жыта касіць; было відаць вёскі за савецкаю граніцаю і беляхцеў у летняй далі гэты касцёл. Бацька казаў:

— Там Малая Бераставіца.

І хаця я ў ёй першы раз, яна адразу сталася мне такой крынкаўскай, хатняй — выдавалася, што дзядзька на вуліцы спытае пра здароўе бацькі, спытае, ці я жанаты і мнагазначна кіўне галавою ўбок дзяўчыны ля плота, дзяўчыны, як мая колішняя беларусая сімпатыя на крынкаўскай Сакольскай вуліцы.

Аўтобус доўга едзе шашою уздоўж граніцы, праз акно ўглядаюся ў прагаліны паміж ельнікамі ды альшынавымі зараснікамі — быццам за імі ўжо Крынкі, Азяраны, Ласіняны, Бабpoўнікі, Гарадок, а нават Беласток. На паўстанках дасядаюць пасажыры са Старынцаў, Цецяроўкі, Вялікай Бераставіцы. На паўстанку пад вярбою даселася цэлая сям'я аж з Бабруйска, відаць, была ў гасцях, мужчыны папіліся — паснулі на задніх сядзеннях, ім далёкая дарога праз Ваўкавыск, Слонім, Мінск.

У Ваўкавыску сцяклося мноства аўтобусаў з усіх кірункаў. Горад прыпамінае Гайнаўку пасечаную чыгуначнымі лініямі — і ў іх павуцінні вуліцы, нованабудаваныя хаты, будынкі, заводы.

У Слонім прыбыў аўтобус пад вечар; малады рабочы растлумачыў мне, як трапіць у гасцініцу «Шчара», пачаставаў моцнаю «беламораўскаю» папяросаю. У слонімскай гасцініцы камфорт, цішыня. На месцы ёсць кафэ, дзе не толькі хуткая абслуга, чыстыя столікі, але і ўшанаванне госця. Там сталаваўся — і хаця гаварыў я пабеларуску, радыё ў кафэ загаварыла - зайграла па-польску. Пераканаўся я, што беларус з Польшчы не можа не прыняць гэтага жэсту сімпатыі да роднай краіны; вось табе сцежкі - дарожкі нацыянальнага пачуцця і дзяржаўнага пачуцця.

Люблю аглядаць горад у вечаровы час, калі ён сонны, ненасцярожаны, больш інтымны, натуральны. Слонім затоплены адлігаю, Слонім прыціснуты да платоў машынамі праязджаючымі па вуліцах - рэчках, асабліва, калі ціснуцца да плоту маладзіцы, а шафёр малады завадыяка.

Вечар.

На верхавінах даўняй бажніцы датлеў дзень. На хвілю здалося, што я ў Орлі або ў родных Крынках. У кучме дрэў засварыліся галкі. У калужыне вырабляюць дзеці, пускаюць на ваду папяровыя караблікі. Хлопчык хваліцца [illegible]камі, называе іх самазвалам і гартае імі цяжкі снег. Вуліца Патрыса Лумумбы ўперлася ў стромкія пагоркі над горадам, яшчэ вышэй чарнацяць могілкі. І крата крыжа.

Стары Слонім, ён тысячагадовы равеснік Русі. Ён як бы абражаны, што слонімцы празвалі яго тысячагоддзе, не памянулі фанфарнай урачыстасцю. Хавае сваю старасць у млеўкім бляску рэдкіх вулічных лямпачак. Затое ўнізе, за ракою Шчараю, зарыва агнёў маладога Слоніма — туды імкнуцца вуліцы з патэтычнымі назвамі: Савецкая, Сацыялістычная, Чырвонаармейская, Энгельса... Магчыма, я паблытаў назвы, але кожны горад на Беларусі мае меншы ці большы асартымент такіх назваў вуліц, пераважна, найлепшых — найноўшых.

Шкада, што ў слонімскім краязнаўчым музеі выхадны дзень.

Ранютка, а дзевятай гадзіне еду пабачыць тэлевізійную рэтрансляцыйную вышку, трэцюю такой вышыні ў цэлым СССР. Дзякуючы ёй беларуская тэлевізія сягнула на Беласточчыну.

*Сакрат Яновіч*




НАША НОВАЯ АКЦЫЯ: КРЫПТАНІМ «ВЁСКА» ■ БЕЛАРУСКІ ВАЯВОДСКІ АГЛЯД ■ КАБ БАЧЫЦЬ БЕЛАРУСКУЮ ТЭЛЕВІЗІЮ ■ ПАЭТ НАШАЙ ДУМКІ ■ НОВЫЯ ВЕРШЫ.

 

# КЛУБ ліцэіста



## КАРОВЫ І АСЁЛ

Шаснаццаць трапных на дваццаць мажлівых! Нядрэнна. І зноў спачатку. Кругом.

Невялічкі фінскі нож з характэрным шумам, праляцеўшы некалькі метраў, урэзаўся ў дрэва. Толькі заходзячае сонца крывава бліснула на гладкай сталі. Старая прыдарожная вярба была ўжо з усіх бакоў пакрыта слядамі ўдараў нажа. Гэтыя сляды на фоне чырвані заходзячага сонца здаваліся Алесю нейкім таямнічым старажытным пісаннем. Толькі гэтае занятце давала Алесю цяпер трохі прыемнасці. Укладаў у яго цяпер сваю душу. Дайшоў да такой дасканаласці, аб якой можна было дагэтуль толькі марыць. З дзесяці крокаў трапляў кожны раз. Аднак у гэтым прыемным занятку перашкодзіла Алесю карова. Асмелена відавочна абсалютным недахопам нагляду з боку свайго гаспадара, спакойна сышла з курсу і пастанавіла змяніць меню. Але калі толькі дакранулася да аўса, Алесь, страсянуўшы з сябе здавальненне, выклікание ўдачным кідком нажа, разануў яе кіем па задзе. Памагло. Карова з пагардай адгярнулася ад аўса і, нібы нічога не здарылася, спакойна пачала шчыпаць прыдарожную траву. Алесь сеў каля аўса. Сонца ўжо над самай зямлёю. «Аднак я люблю вёску, — падумаў. — Як тут прыгожа». Старая, пакрыўленая гадамі вярба, аблітая праменнямі заходзячага сонца, блішчэла ўсімі колерамі. Яе сіні цень станавіўся ўсё больш і больш цёмным. Асветлёныя апошнімі праменнямі сонца воблакі блішчэлі, як аблітыя крывёй казачныя створы. Алесь глянуў на сонца. Не было яго відаць.

Засланяў яго конь, які стаяў, на ўзгорку. Відаць было толькі постаць каня, абведзеную яснай паласою святла. «Пегаз, толькі без крылляў», — падумаў Алесь. А сонца было ўсё ніжэй і ніжэй. З надрэчных кустоў паволі выпаўзаў туман. Яго белыя кахлатыя лапы распаўзаліся штораз шырэй і шырэй і паступова пакрывалі ўсю зямлю. Сонца ўжо не было відаць. Толькі месца яго заходу ўсё яшчэ было чырвоным. Але і чырвань заходу хутка пачала ўступаць зімнаму цямну ночы. Алесь памалу ўстаў. Зрабілася яму так сумна, як яшчэ ніколі. Зноў прыпомніў сабе гэтых з аўтастопу. Ішлі ўтрох і смяяліся. Ясна, што смяяліся з яго. Ён таксама смяяўся б, калі б быў аўтастаповічам і ўбачыў хлопца, які марыць аб аўтастопе, а... пасе каровы. Бацька таксама смяяўся, калі Алесь прыехаў са школы і сказаў, што хлопцы выбіраюцца «ў Польшчу» аўтастопам і што ён таксама хацеў бы.

— У мяне пры каровах будзеш мець гэты там свой аўтастоп. «Ніколі, ніколі яму гэтага не забуду», падумаў Алесь.

ВІКТАР ЛЕМЕШ
Бельск

## ПЕРШЫ ГРОМ



Прышла вясна ціха, нечакана. Яшчэ нядаўна зямля была пакрыта снегам, але ён згінуў так хутка, як і выпаў адным восеньскім днём. Вакол паплылі ручайкі. Прыемна было слухаць, як яны весела журчаць, несучы з сабой то галінку дрэва, то мінулагоднюю купінку травы. Хаця прырода ажыла, але відаць было, што яна чакае яшчэ на нешта магутнае, важнае. Ёй толькі гэтага не хапае...

Ранак быў пагодны. Сонца адразу пачало моцна прыграваць, аж запарэла зямля. Людзі хадзілі павольна, не мелі ахвоты да працы. Пад поўдзень павеяла вецярком. Праз некаторы час падзьмуў і моцны вецер. На небе паказаліся то тут, то там белыя воблачкі. Вецер пачаў іх зганяць у штораз большыя групкі. Так і ўтварылася хмара. Вецер яе некалькі разоў прагнаў па небасхіле. Ужо яна пацямнела, узяла ва ўладанне цэлы небасхіл. Засланіла сабой сонца. Вецер раптоўна сціх. Прапалі ўсе гукі. Прырода застыла ў напружаным чаканні на штосьці асобай важнасці. І вось высока ўгары пракаціўся першы гром. Голас яго быў магутны, важны, хаця ён прагрымеў ціха. На зямлі здалося, што гэта па небе праехаўся яго ўладар агнявым канём, запрэжаным у карэту. Пракаціўся гром з аднаго ў другі бок небасхілу праз цэлае неба. Гэтаму гуку ўзрадавалася зямля, ён выказаў яе волю, незалежнасць. Яна адгукнулася яму сваім голасам. На голас грому ўстрапянуўся стары лес, вырваўся з вечнай задумы і панёс па зямлі водгулле сваёй радасці. Пад магутным ударам прачнулася поле. Доламі пакаціўся гул, прайшоў над лугам пакрытым яшчэ ледзь зялёнай травой. Голас першага грому многа гаворыць. Ён выражае, якім мае быць лета ў гэтым годзе. Запэўняе, што ўжо сапраўды будзе цёпла, як улетку. Пракаціўся першы гром, а праз некалькі тыдняў, а мо і раней, людзі скажуць: «адгрымелі ўжо першыя громы».

*Надзея Ігнацюк*
Бельск

## УСПАМІНЫ...

Час ідзе шпарка наперад. Аднак некаторыя факты з жыцця астаюцца надоўга ў нашай памяці. Вось успаміны.

— Восеньскі дзень, кароткі, шэры, як і кожны іншы. Здаецца, ён нічога сабою не прадстаўляе, нічым асаблівым не выдзяляецца. Але атмасфера шэрасці толькі на дварэ, у будынку беларускага ліцэя ў Бельску Падляшскім прыемна, цёпла і ўтульна. Гэтую прыемную атмасферу стварылі госці: вядомы беларускі пісьменнік Піліп Пестрак і гісторык Мікалай Арэхва.

Мы з вялікай радасцю прывіталі гасцей. Гэта ж вялікі гонар мець іх у нашай школьнай сям'і, слухаць, задаваць пытанні — такім слаўным людзям. Калі слухалі творы П. Пестрака, то здавалася, што мы самі пераходзім у жыццё яго паэзіі. Здавалася, што гэта мы самі, героі яго творчасці. Тады толькі вярталіся да рэчаіснасці, калі голас пісьменніка заціхаў. Слухаючы творы Пестрака, мы чулі не толькі сам твор, мы адчувалі многа болей. Проста яшчэ раз даходзім да вываду, што наша родная мова, беларуская, самая нам дарагая мова і самая прыгожая.

П. Пестрак прайшоў усялякія этапы жыцця, і добрыя, і дрэнныя. Яго творы гучаць тым большай рэальнасцю, што яны ўзяты проста з жыцця — паэт многа бачыў і многа ўсяго перажыў.

Мікалай Арэхва — вядомы дзеяч КПЗБ. Мы прасілі расказаць яго аб сваім змаганні. Калі ён расказваў, перад нашымі вачыма чарнеў цёмны, глухі лес. Недзе ў глыбі яго, вядомымі сабе толькі сцежкамі, праходзілі ціха, бясшумна людзі. Выныралі раптоўна з гушчару і зноў хаваліся, каб выйсці ў новым месцы, як начныя з'явы. Здавалася, што гэта нейкі цудоўны сон — толькі лес, яго цішыня, сон ночы — і гэта ўсё, больш нічога, людзей няма... Толькі часта неяк знікалі малыя атрады немцаў, якія, «блудзілі па ночы ў лесе, як бы шукаючы нечага». Ён гаворыць: «Ці можна было ўсё толькі глядзець, нічога не робячы, як гэтыя гады адчувалі сябе панамі, а з нас слуг хацелі зрабіць?» Слугой для фашыста ніколі не стаў беларус, і самі дасканала гэта адчулі на сваіх спінах. Ці ж можна было аддаць нашае самае роднае, блізкае, нашыя беларускія краявіды, «дрымучыя лясы» — як пісаў Я. Колас?.. Доўга яшчэ слухалі тое, чаго не пражылі і не бачылі. Мы гэта дасканала адчувалі і самі прысягалі, што не — фашызм ніколі не паўторыцца — (мы не дапусцім) і гэты лозунг будзе лозунгам нашай будучыні, нашага жыцця.

Госці пачалі збірацца, ім неабходна ў Беласток. Мы стаялі суровыя і было нам нечага шкада, мо гасцей, якім мы надта ўдзячны. Нам здавалася, што яны адыходзяць і з сабой забіраюць гісторыю мінулых дзён — мо нам шкада гэтай гісторыі?..

РАІСА ЛЕЎЧУК



## Гайваран

Гайваран аблётаў свету шмат.
Пазнаў жыццё і лад.
Цяпер вярнуўся ў родны кут
І перад аграмаднаю раднёю
Ён стаў хваліцца мудрасцю сваёю.
Нейнакш, толькі так:
«У свеце многа пакінуў я пасад,
А і тут завяду вам я новы лад».
Знайце, за працу сапраўды ён узяўся.
Перш-наперш у Сароцы закахаўся.
З тае прычыны стаў паэтам.
Паэзіі ствараў многа.
Нарэшце знудзіла яна яго самога.
І захапіўся ён пейзажам,
Карціну нат' адну намазаў.
І стаць салістам прабаваў,
Хоць песню не спяваў — жаваў.
Прафесій шмат ён прамяняў,
Аж хуліганам, урэшце, стаў.

*

Менш хваліся,
Лепш за работу мацней бярыся.

МІКОЛА ІВАНЧУК
Бельск



## ВЯСНА

Снягі раставаць пачынаюць,
Усюды балота і гразь.
Шпакі да нас прылятаюць
І крычаць: — Ужо з хаты вылазь.

А сонейка да ўсіх смяецца,
Заглядаючы ў вокны дамоў.
Яно ўсюды цяпер закрадзецца,
І прагоніць халодных вятроў.

*ЯЎГІННЯ АНОПЮК*
*Бельск*



Духавы аркестр беларускага ліцэя ў Бельску. Фота С. Грынявіцкі




«Р. Р.» (Гайнаўка): Апавяданне «Заплата» цікавае, надрукуем. Артыкул «Мая вёска» быў бы добры, каб ананімную назву вёскі замяніць на сапраўдную. Калі крытыкаваць, дык адкрыта. Тады будзе карысць.

Валянцін Адамец (Бельск): «Вечар» атрымалі. Надрукуем.

Вера Філіпюк (Бельск): «Перажыванне» абавязкова надрукуем. А мо прыдумаеш больш трапны загаловак?

Ірына Себясевіч (Бельск): Не хвалюйся

## БОР

Рос бор.
І я расла з ім.
Сцярог мяне.
І я яго кахала.
Кругом сцяна.
І ціха тут.
А птушкі?
Не спяваюць.
Замерла ўсё.
І страшна мне.
Праходжу міма.
Стала.

*Ірына Себясевіч*
Бельск

## НАША ПОШТА

за апавяданне — выдрукуем.

«Ліцэістка» (Бельск): «Сястра» зрабіла на нас моцнае ўражанне. Надрукуем абавязкова. Шкада, што не хочаш падпісаць яго сваім прозвішчам.



 

# Палкоўнік Абель расказвае

...Напярэдадні, 21 чэрвеня, у сем гадзін раніцы я спаў у нью-йоркскай гасцініцы «Лейтам». Пачуўся стук у дзверы. Адразу прачнуўшыся, я падышоў да дзвярэй паглядзець, хто там. Але не паспеў іх прыадчыніць, як яны з усёй моцы расчыніліся, і хтосьці адштурхнуў мяне ўбок.

У дзвярах стаялі два чалавекі. У іх руках былі якіясьці пасведчанні. Скарагаворкай аб'явіўшы сябе асобаўпаўнаважанымі федэральнага бюро расследаванняў, яны ўвайшлі ў пакой. Следам увайшоў трэці, а ў калідоры засталіся яшчэ некалькі чалавек.

— Сядайце, — прапанаваў мне адзін з іх.

— Мы ведаем, хто вы, палкоўнік, навошта прыехалі і што рабілі тут, — сказаў другі.

Усё стала ясна! Адна фаза маёй работы скончылася — пачыналася другая.

— Мы прапануем вам супрацоўнічаць з намі. Калі не згодзіцеся, то выйдзеце з гэтага пакоя пад арыштам і ў наручніках. У вашых інтарэсах згадзіцца з нашай прапановай.

— Мне незразумела, пра якое супрацоўніцтва вы гаворыце! — сказаў я.

— Вы добра разумееце, аб чым мы гаворым, — запярэчыў супрацоўнік ФБР.

— Дазвольце апрануцца?

— Пачакайце, адкажыце на наша пытанне.

— Я ўжо адказаў.

— Паўтараю, — заявіў першы, — мы ведаем, што вы палкоўнік савецкай разведкі, ведаем, што вы тут рабілі. Мы прапануем вам супрацоўнічаць з намі, інакш вы будзеце арыштаваны.

— Не магу што-небудзь дадаць да таго, што я вам ужо сказаў, — у сваю чаргу паўтарыў я.

Так мы гутарылі каля паўгадзіны. Нарэшце, адзін з амерыканцаў устаў і выйшаў у калідор. У пакой увайшлі яшчэ тры чалавекі. Упаўнаважаныя ФБР сталі ля дзвярэй.

Адзін з увайшоўшых прад'явіў мне ордэр на арышт, выдадзены нью-йоркскім аддзелам іміграцыйнай і натуралізацыйнай службы. У ім было напісана, што я знаходзіўся ў краіне нелегальна і не рэгістраваўся ў аддзелах службы. Пачаўся вобыск.

Да гэтага часу я не ведаю, ці спецыяльна была выбрана раніца пятніцы для гэтай аперацыі. Справа ў тым, што ноччу ў мяне адбыўся сеанс радыёсувязі з Цэнтрам, і, натуральна, шыфравальныя прылады знаходзіліся ў нумары гасцініцы. Звычайна я хаваў іх у патаемным месцы ў горадзе, дзе, акрамя шыфравальных матэрыялаў, хаваліся і іншыя рэчы. Але паколькі ўсё было запакавана разам, цяпер гэтыя рэчы таксама знаходзіліся ў маім нумары.

Я ведаў, што на вачах у шасці агентаў цяжка будзе ўсё знішчыць, але як праграму-мінімум намеціў што б там ні было пазбавіцца ад шыфру і запісу апошняй радыёграмы, якую прыняў ноччу.

Ад шыфру пазбавіцца было няцяжка, бо ён быў невялікі. Я схаваў яго ў руцэ і сказаў, што мне трэба схадзіць у туалет. Там пад «пільным» наглядам аднаго з абшукваючых я спусціў шыфр у каналізацыю.

Запіс радыёграмы ляжаў на стале пад стосікам чыстай паперы. Калі вобыск скончыўся, мне прапанавалі запакаваць рэчы. У маім эцюдніку (я займаўся жывапісам) засталася фарба на палітры. Я выцягнуў запіс радыёграмы з-пад стосіка папер і пачаў саскрэбваць на яе фарбу. Калі палітра была ачышчана, скамечыў паперку і адправіў яе ва ўнітаз следам за шыфрам. Вядома, я вельмі шкадаваў, што не змог зрабіць тое ж самае з іншымі паперамі, але тым не менш поспех з шыфрам і запісам узняў мой настрой.

Хоць я пазбавіўся ад двух доказаў, але засталіся іншыя. У мяне не было ілюзій наконт майго далейшага лёсу. Не было і сумнення наконт таго, як ФБР натрапіла на мой след. Самі асобаўпаўнаважаныя ў імкненні пераканаць мяне, што яны «ўсё ведаюць», выдалі сваю крыніцу — здрадніка.

Многія мяркуюць, што, зжываючыся з думкай аб магчымым правале і арышце, разведчык перастае пра іх думаць, а гэта прыводзіць да страты пільнасці. Праўду кажучы, пастаянна думаць пра арышт нельга. Нервовая напружанасць, бясспрэчна, адаб'ецца і на псіхіцы і на рабоце разведчыка. Як салдат на фронце прывыкае да думкі аб магчымай гібелі, так і разведчык заўсёды ўсведамляе небяспеку, якая яму пагражае. Але разумны чалавек не дае гэтай свядомасці гнясці яго. Ён прымае меры перасцярогі, каб звесці небяспеку да мінімуму, прывучае сябе больш думаць не аб сваёй бяспецы, а аб тым, як лепш выканаць даручанае заданне. I ўрэшце — рэшт гэтыя дзве задачы атоесамляюцца, зліваюцца ў адзіны прынцып: правільнае вырашэнне разведвальнага задання адначасова забяспечвае бяспеку разведчыка.

Працяг будзе

# ЦЭНЫ

Ваяводская Камісія цэн у Беластоку пастаянна сочыць за ўзроўнем цэн на кірмашах, дзе не абавязваюць дзяржаўныя цэннікі. Яе працаўнікі ў мінулым тыдні (у чацвер у Беластоку і ў Бельску, а ў сераду — у Гайнаўцы) аднатавалі наступныя цэны:

| прадукт | мера | Беласток | Бельск | Гайнаўка |
|---|---|---|---|---|
| жыта | цэнт. | 300 | 290 | 300 |
| пшаніца | цэнт. | 460 | 390 | 330 |
| яйкі | 1 шт. | 1,55 | 1,3[illegible] | 1,30 |
| масла | кг | 60 | 60 | 50 |
| ялавічына | кг | 35 | — | — |
| свініна | кг | 38 | 37 | 36 |
| сала | кг | 32 | 35 | 35 |
| бульба | цэнт. | 1,50 | 1,20 | 1,10 |
| цыбуля | кг | 4 | 3 | 3 |
| капуста | кг | 3,50 | 4 | 2 |
| морква | кг | 2 | — | 2 |
| буракі | кг | 2 | 2 | 2 |
| сена | цэнт. | 120 | — | 150 |

# Культурны агляд

### НОВЫЯ ВЫСТАЎКІ

Выстаўка — гэта добрая і сучасная форма пазнавання. Для інфармацыі (каб ведалі чытачы, што дзеецца ў сталіцы ваяводства) падаю, што ў Беластоку былі адкрыты ў апошні час 3 выстаўкі — дзве паасобных мастакоў: вельмі цікавая па форме **Славаміра Худзіка** ў Міжнародным клубе кнігі на рагу Ліповай і Сянкевіча, і **Ежы Зінкова** ў салоне мастакоў пры Рынку Касцюшкі. Трэцюю можна паглядзець у Музеі ў Ратушы. Гэта «Геалогія Месяца». Аказваецца, што ўжо можам гаварыць нават пра геалогію нашага вернага спадарожніка. Ракеты з навуковай апаратурай памаглі гэтаму.

### МАЗЕПА

Гэта чалавек — казачы сын, аброс легендай. Ён герой многіх літаратурных твораў. Выступае ў паэме «Палтава» Пушкіна і аб ім, маладым яшчэ, піша Славацкі ў «Мазепе». Гэтую драму паставіў цяпер Беластоцкі тэатр. Бачым тут Мазепу як вернага прыслужніка караля, па ўсім прызнакам, Яна Казіміра, амбіцыяй якога было стацца таксама царом Расіі. Славацкі ў сваёй драме паказве рост значэння крэсавых магнатаў, палітыка якіх давяла Польшчу да падзення.

Мазепу цікава іграе малады і здольны **Аляксандр Іванец**, ваяводу — мсцівага «роўнага каралю» — Яўгені Дзяконскі.

### ІНШЫЯ

Коратка з іншых культурных выдарэнняў хачу падаць: прафсаюзы прадаўжаюць цыкл «Тры музы» (музыка, песня, паэзія). Апошні вечар прысвечаны быў даўняй песні. Гэта цікавая форма працы і прыемлімая ўсюды — не патрабуе многа месца. Патрабуе толькі пэўнай прадуманай арганізацыі.

Таварыства прыяцеляў Белавежы інфармуе нас, што яны вандравалі па Казахстане. Вёў іх словам і каляровымі здымкамі мгр Яўгені Новак з Польскай Акадэміі навук.

### АДКАЗ ПРЫСЛАЎШЫМ ВЕРШЫ

Пачулі беларусы вясну і кінула іх у паэзію. Такі ён — беларус — чулы на змены ў прыродзе. Калі мароз — сядзіць ціхі, неразмоўны. А толькі няхай блісне сонца, заспявае жаваранак, сэрца беларуса нібы ружа расцвіце і хочацца яму спяваць, спяваць... А паэзія, вядома — песня душы. Таму цешымся, што шлюць беларусы ў рэдакцыю вершы. Гэта цудоўна, хоць не абазначае, што вершы раз-два можна надрукаваць. Вядома, каб вершы друкаваліся, трэба аўтару вучыцца, працаваць і можа тады блісне моцным праменнем яго паэзія.

Гэта адказ аўтарам прыслаўшым вершы: В. Ж. з вёскі М. у Бельскім павеце і К. Ч. з Беластока.

Чакаем на вершы. Прабаваць заўсёды трэба. (вл)

**Легенды нашай вёскі**

### КРЫЖ

Паўвярсты ад Крушынянаў разыходзяцца дзве дарогі: адна направа, другая налева. У кліне гэтых дарог стаяў крыж, які, падгніўшы, упаў, а засталося некалькі плітак камення. На адной з гэтых пліт можна прачытаць прозвішча «Макаль 1912 г.» У гэтым месцы хавалі людзей, якія хварэлі на заразлівыя хваробы. Таму па сённяшні дзень, калі пачнуць жанчыны сварыцца, то кажуць «Каб цябе вынеслі на крыжавыя дарогі».

### ЛЫСА ГАРА

Адышоўшы ад Крушынянаў дзве вярсты ёсць «Лыса гара». Гэта гара мае выгляд піраміды, толькі піраміда вуглаватая, а Лыса гара круглая. З гэтай гары на ўсход відаць не менш як на трыццаць кіламетраў голым вокам, дзе вялікі сіні лес злучаецца з небасхілам. Верх гэтай гары мае форму паўміска. Кажуць, што на гэтым месцы стаяў касцёл. Касцёл пайшоў у зямлю, і ўтварылася гара. Гаварылі, што калі на Вялікдзень у дванаццаць гадзін пайсці на гару і прылажыць вуха, то чуваць, як там звоніць. Я сам у гэта моцна верыў і аднойчы хадзіў пераканацца. Чуў звон, але не з гары, а з Крынак.

### ГРЭБЛЯ

У пяці вярстах ад Крушынянаў ёсць млын «Нетупа». У гэтым месцы праходзіў Напалеон са сваім войскам у 1812 г. Дарога праходзіла праз балота і была вельмі дрэнная. Напалеон загадаў сваім войскам і мясцовым жыхарам насыпаць грэблю, якая засталася і па сённяшні дзень.

### ЖЭНІХАЎКА

На крушынянскім полі ёсць месца, якое называецца «Жэніхаўка» (ад слова «жэніх»). Знаходзіцца яно пры гасцінцы. Не вядома ў якім гэта было годзе, ехала вяселле да вянца, а другое ехала з вянца. Якраз сустрэліся на гэтым гасцінцы пры клімаўскай дарозе, якая вядзе да Крушынян. Ні адно ні другое вяселле не хацела ўступіць з дарогі, завязалася сварка, а потым бойка. Бойка перайшла ў разню. Біліся ручкамі ад воза, а потым нажамі, так што лягло 13 чалавек. На могільніку хаваць іх не дазволілі. Пахавалі там. Сведчыць аб гэтым 13 каменных пліт.

**А. Макаль**

# Сучасная жанчына

«Апошнім часам мая скура твару зрабілася вельмі сухой. Я пачала смараваць твар нанач тлустым крэмам. Але гэта вельмі не гігіенічна: моцна брудзіцца падушка і коўдра. Што тады рабіць? У дзень не магу смараваць гэтым крэмам, а нанач нявыгадна», — піша Кацярына С.

Сухую скуру твару трэба абавязкова звільготніць крэмам тлустым і то найлепш нанач. А трэба гэта зрабіць такім чынам: вымыць добра твар цёплай вадой з мылам, выцерці насуха, пасмараваць твар крэмам тлустым і кончыкамі пальцаў уклепваць доўга-доўга. I так пакінуць на 15 мінут, каб крэм увабраўся поўнасцю ў скуру. Нельга многа мазаць, бо гэта і так нічога не дасць. Потым узяць крыху ваты і сцерці крэм з твару. Пасля ўсяго гэтага можна класціся спаць са спакоем: пасцель будзе чыстай і скура твару будзе праз цэлую ноч насычана тлушчам.

**Аксіння**

# Чытачы пытаюць — „Ніва" адказвае

**Пытанне:** Бацька мой за намовай сястры адышоў ад мяне і жыве пры ёй у горадзе. Цяпер ён патрабуе, каб я плаціў яму аліменты па 600 зл. у месяц. Я маю 5 га зямлі, а на ўтрыманні трое дзяцей і не маю магчымасці столькі плаціць. У мяне ёсць яшчэ двух братоў, якія жывуць у горадзе значна лепш ад мяне. Аднак бацька кажа, што толькі я павінен плаціць аліменты, бо сяджу на яго гаспадарцы. Ці паводле права толькі я абавязаны ўтрымоўваць бацьку?

**Адказ:** Бацьку павінны ўтрымоўваць усе яго дзеці ў меру сваіх магчымасцей, незалежна ад таго, ці каторы знаходзіцца на гаспадарцы, ці не. Калі б бацька падаў у суд толькі вас, суд мае абавязак ацаніць сямейную і матэрыяльную сітуацыю не толькі вас, але вашай сястры і братоў і засудзіць ад вас адпаведную частку аліментаў, учытваючы патрэбы вашага бацькі.

Грамадзяне! У кожны панядзелак (ад 11—12 гадз.) у нашай рэдакцыі дзейнічае бясплатны юрыдычны пункт. Звяртайцеся за парадамі да нашага праўніка.

БАЦЬКІ! ПРЫВІВАЙЦЕ СВАІМ ДЗЕЦЯМ ЛЮБОЎ ДА РОДНАЙ МОВЫ.



На кірмаш у Бельск. Фота А. Казёл.

# З БССР

(Працяг са стар. 2)

**які ў час раскопак сутыкнуўся тут з мноствам каштоўных знаходак. Быў знойдзен фундамент раней невядомага храма XII стагоддзя і часткі хораса, накшталт люстраў, якія падвешваліся ў царквах. Рэшткі праваслаўнага храма XII стагоддзя знойдзены таксама ў Навагрудку. Пры раскопках у Гродна, Ваўкавыску, Навагрудку знойдзены матэрыялы, якія сведчаць аб сувязях іх старажытнага насельніцтва з рускімі, польскімі і іншымі землямі.**

**Насельніцтва Беларусі ў эпоху Кіеўскай Русі належала да старажытнарускай народнасці. Але ўжо ў той час стварыліся прадпасылкі для стварэння беларускай народнасці.**

**Выступіўшы на канферэнцыі ў спрэчках Е. Антаневіч пазнаёміў прысутных з асноўнымі вынікамі вывучэння польскімі даследчыкамі гісторыі яцвягаў. Ён падкрэсліў важнае значэнне навуковых кантактаў паміж польскімі і беларускімі археолагамі ў справе вывучэння далёкага прошлага Польшчы і Беларусі і другіх сумежных тэрыторый. На канферэнцыі было адзначана, што ў апошнія гады беларускія археолагі асабліва многа зробілі па вывучэнню старажытнай гісторыі Беларусі.**

Навуковы супрацоўнік Інстытута гісторыі АН БССР
**ГЕОРГІЙ ШТЫХАЎ**

 





# Жанчыны і мужчыны ў Кітаі

Мужчына ў Кітаі заўсёды быў у лепшай сітуацыі. Звычай дазваляў яму пакінуць жонку ў выпадку адной з прычын. Гэта значыць, калі: не мела сына, кепска вяла сябе, была непаслушная і не дбала пра цесцяў, была сварлівая, крала, была зайздросная або невылечна хворая. Мужчына мог таксама купіць сабе другую, трэцюю, чацвёртую ці пятую жанчыну для сужыцця (канкубіну). Вядома, трэба было толькі мець грошы за што купіць ці накупіць, так сказаць, дадатковых жонак. Мог іх таксама прадаваць. Жанчына не мела такіх правоў, у хаце была абавязана толькі слухаць цесця, мужа, а калі была ўдавою, абавязана была слухаць свайго сына.

Пасля перамогі кітайскай рэвалюцыі ў 1950 годзе народны ўрад ухваліў новае сямейнае права, закон. У артыкуле трэцім гэтага закона гаворыцца: «Шлюб можа адбыцца толькі на падставе свабоднага выбару абодвух бакоў. Адзін бок не можа накідаць сваёй волі другому баку альбо карыстацца інтэрвенцыяй трэціх асоб».

У Кітаі вельмі часта жаніліся блізкія сабе сваякі, якія паходзілі ад адной бабулі. Рабілася так, перад усім, з боязі, каб унучак не напаткаў злы лёс і гаротнае жыццё ў чужым доме. Новы закон забараняе шлюбаў паміж блізкімі сваякамі да пятага пакалення. Дазваляецца шлюб асоб розных пакаленняў, але не сваякоў. Напрыклад, шлюб цесця з разведзенай сынавою (нявесткаю) альбо шлюб паміж братам мачыхі і яе прыбранай дачкою. Такія шлюбы раней былі забароненыя.

Палова законаў новага шлюбнага права прысвечана справам разводаў. З увагі на спецыфіку Кітая, гэтыя законы маюць на ўвазе, перад усім, абарону жанчыны, якая калісьці была найбольш паніжана. У выпадку, калі абодва бакі згаджаюцца на развод, даволі цяпер, што пойдуць у «загс», заявяць аб сваёй пастанове развесціся і, калі іх пастанова прызнаецца шчырай, непрымушанай, а дзеці добра забяспечаныя — развод даецца, так сказаць, ад рукі. Не заўсёды аднак людзі расстаюцца разважліва і па-сяброўску. У выпадку, калі муж і жонка не могуць дайсці да згоды, справа аб развод накіроўваецца ў суд. А калі і ў судзе не даходзяць да згоды, а адзін бок лічыць, што далейшае сужыццё немагчымае, тады суд дае развод.

Паводле кітайскіх законаў мужчына не можа прасіць аб развод у выпадку, калі жонка цяжарная або ў няцэлы год пасля родаў. Развод не можа адбыцца таксама і тады, калі асоба знаходзіцца ў войску, хіба, што ад двух год не піша да сям'і. Дзеці знаходзяцца пад асаблівую апекаю кітайскіх законаў. Да 18 год іх жыцця бацькі абавязаны забяспечыць ім утрыманне, забаронена збыткавацца над імі або пакінуць іх. Пасля разводу таксама не можна — плата на ўтрыманне іх абавязвае да 18 год жыцця.

Дзякуючы новым законам аб сямейным жыцці шмат людзей вызвалілася ад непажаданага імі супольнага жыцця; шмат удоваў выйшла замуж, не пагражае ім кара ўтаплення ў рэчцы. Удовы вызваліліся ад кашмару сну з драўлянаю разьбою памёршага ці загінуўшага мужа, нарачонага.

Адкрылася дарога да сямейнага шчасця, шчырага шчасця. Канкубінат строга забаронены.

(а-ся)

— Абразок даўняга Кітая: муж у крытых насілках, канкубіны пехатою.

# ЛЯТАЮЧАЕ СУДНА

Нядаўна Сормаўская суднаверф спусціла на ваду найбольшае ў СССР пасажырскае судна на паветранай падушцы.

Корпус судна змяшчае 50 пасажыраў, якія тут знаходзяць выгодныя, мяккія крэслы і акліматызацыю. Адной з найважнейшых прыкмет судна з'яўляецца яго хуткасць — 120 км на гадзіну. У час руху судна ўзносіцца на 20 — 30 см над паверхняй вады. Дзякуючы таму можа яно пераадольваць нават найбольш плыткія месцы, пералятаць цераз пясок, выязджаць на бераг.

Апошняя ўласцівасць мае вялікае практычнае значэнне. Не трэба будаваць ім спецыяльных прыстаней. У будучыні такія судны змогуць не толькі выязджаць на бераг, але для выгады пасажыраў падвозіць іх да аўтобуснага паўстанка. Падобным чынам можна будзе аблегчыць перавоз і разгрузку тавараў.

Савецкія спецыялісты прадбачваюць, што судны на паветраных падушках будуць мець шырокае прымяненне. Зробяць яны воднымі дарогамі рэкі, якія яшчэ сёння зусім не надаюцца да плавання. *(ака)*



*На здымку: Лятаючае судна «Сармовіч».*

# Пісьмо Напалеона даручана праз 116 год

*Здарылася гэта ў 1915 годзе, у дні першай сусветнай вайны. Нямецкія часці акружылі англійскую крэпасць у Сінайскай пустыні. У англічан канчалася вада і харчы. У найбольш крытычны момант стражнік увёў да начальніка гарнізона згорбленага шэйха з тварам пакрытым маршчынамі.*

*— У мяне пісьмо для капітана Кейзла, — сказаў стары. — Я доўга чакаў, каб перадаць яго.*

*Капітан узяў пакет. Пісьмо было незвычайна складзенае, а папера ад часу зрабілася крохкай.*

*— Я атрымаў яго з рук Напалеона, — растлумачыў стары шэйх. — Ён сказаў, каб я перадаў яго толькі капітану Кейзлу, і нікому другому. Я чакаў доўгія гады вас.*

*«Мой дарагі Кейзл, — пісалася ў пісьме, — неадкладна, як атрымаеце гэтае пісьмо, якое я пасылаю цераз хлопчыка-егіпцяніна, адкапайце запасы правіянтаў і амуніцыі, закапаныя пад крэпасцю. Узяўшы ўсё, што патрэбнае вам, знішчыце рэшту запасаў і адступайце да егіпецкай граніцы. Захавайце прыкладзеную да пісьма карту: на ёй абазначаны пункты, дзе ёсць вада. Напалеон».*

*— Што ж, — сказаў капітан, — хіба мы вырвемся з крэпасці. Мой прадзед, што служыў у арміі Напалеона, быў забіты ў гэтых мясцінах. Магчыма, пісьмо адрасавана яму.*

*Прадукты, боезапасы і вада сапраўды былі знойдзены. Узрадаваны капітан паслухаў парады данай у пісьме і павёў сваіх салдат шляхам, указаным на старой карце.*

*Шэйху было 25 год, калі Напалеон загадаў аднесці пісьмо капітану Кейзлу. Калі малады егіпцянін прышоў у крэпасць, яна была пустая. Праз сто з лішнім год імя другога капітана Кейзла прабудзіла ў ім смутныя ўспаміны, і 140-гадовы шэйх выканаў даручэнне Напалеона. (а-ся)*

## Аляксей Карпюк
# ПУШЧАНСКАЯ АДЫСЕЯ

Пакарыстацца мукой ад разбітага поезда маім ужо не давялося.

Мама паходзіла з вёскі Бялявіч. Там і цяпер жылі яе браты. У прадчуванні бяды бацька сабраў астаткі адзення, кубелец з мясам, ссыпаў рэшткі зерня і павёз усё да шваграў. Маці засталася дома. Якраз канчала варыць свінням бульбу, калі пачула ў сенях знаёмы голас·

— Дзіндобры, Манька!

На кухню ўвайшла Кірыліха. Маці адвярнулася ад пліты, адказала на прывітанне.

— Паглядзі, што я табе прынесла! — цётка падала моцна заржаўлены відэлец з адным карацейшым зубам.

— А-а...

— Мой стары выскробваў у хляве гной і знайшоў. Яшчэ калі Вася жаніўся і пазычалі на вяселле, то згубілі... На-а, бяры, бяры! Пачысціш пяском і будзе як новы! Мне ўжо не спатрэбіцца. Сын мой адышоў з хаты, дачка таксама. А вайна скончыцца, твае хлопцы вернуцца, прыдасца ў самы раз...

У Кірыліхі быў невычарпальны запас прычын і спосабаў, каб зайсці ў госці, узняць настрой чалавека. У мамы вочы адразу павільгатнелі, сэрца напоўнілася ўдзячнасцю. Ледзь з сябе выдавіла:

— Дзякуй... Пакладзіце туды на стол і сядайце сабе. Ой, зараз вам лаву змахну! Гэта ён тут збіраўся ў дарогу, расол крыху працёк з мяса...

219

— То Нічыпар такі павёз хаваць?

— Да братоў... Трэба нам быць гатовым на ўсё і хоць што-небудзь прыхаваць. Прыйдзецца ў лес бегчы, тады з лесу выходзіць, дык застанешся ў чым стаіш.

— Няўжо ж, трэба!

— Паехаў! — уздыхнула маці і безуладна апусціла рукі. — Мне адной так страшна, што хоць вый! Дзякуй, што зайшлі. Выйдзеш на двор ці глянеш у акно, то ўсё гэтыя нямчыска шнуруюць па пуці на дрызінах, ліха ім, жануць рабочых, лаюцца... Раней, як паязды хадзілі, то было якосьці бы весялей...

— Усё з-за шалона з мукой так лютуюць! — цётка ўселася лепш. — А ў маёй Мілашкі стаў на кватэру іхні афіцэр, што кіруе ўсімі работамі. Мо восем разоў на дзень мыецца... А дзяншчык напёк яму пірагоў, то рэзаў не нажом, а спецыяльнымі пілкамі. Кожны пірог іншай!

— Ах, па-аду-умайце!

— То Юляк з Мілашкай баяліся пры ім дыхаць нават. А ўчора вечарам дзяншчык на ровары паехаў у Гарадок па газету афіцэру, а ён сам выходзіць да зяця і кажа: «Капут, нам. Хутка прыйдзе сюды ваш Іван...»

— Ой, каб даў бог хутчэй ужо!

— Скора, Манька, ско-ора! — цётка перайшла на шэпт: — Мой Кірыл з мужчынамі ўчора вазіў на станцыю муку, то там усе гаварылі, што першага чэрвеня вайна скончыцца!

Усю вайну нашыя сяляне вызначалі сабе дзень прыходу Чырвонай Арміі круглымі датамі і цешылі адзін аднаго, што 1, 10., або 15 ці 20 прыйдуць нашы. У людзей аднекуль з'явілася стыхійная вера ў магічнасць гэтых лічбаў.

У хату ўбег дзядзькаў сын. Шасцігадовае хлапчаня ўбачыла чужога на кухні, сумелася.

220

— Няўжо яно аж з Бялявіч прыляцела? — з жахам спыталася цётка.

— Лё-онічак, ідзі далей, ідзі! Ты адзін? Чаго ты збаяўся? Тут жа ўсе свае! — насцярожылася маці і нагнулася над ім. — Ну, кажы, што маеш сказаць!

Але той толькі пацёр адной нагой другую, зыркнуў на Кірыліху з-пад ілба. Яму цвёрда сказалі перадаць вестку толькі цёці Марусі.

— Ах бо-ожа, што там такое зда-арылася, мо Нічыпара забралі? — маці хапіла хлопчыка за руку, пацягнула ў бакоўку, прысела на ложак.

— Ну, кажы, сыночак, тут нас ніхто не чуе, мы адны. Кажы, што маеш!

— Дзядзька Нічыпар сказаў, каб вы ўцякалі!

— Ну, вось, нарэ-эшце! — уздыхнула маці і адразу ёй зрабілася быццам бы лягчэй. Тое, што даўно чакала кожную секунду, прыйшло.

— А тата сказаў, што немцы вас застрэліць хочуць, — успомніў малы. — Праўда гэта?

Маці на яго ўважліва паглядзела, — што ён можа ведаць яшчэ?

— А дзядзя Нічыпар, Лёнічак, у вас?

— У-угу.

— А куды пойдзе, не казаў?

— Эх! — хлопчык матнуў галавой і пачаў гладзіць паліраваную спінку ложка рукой, шчакой. — А прыехаў сёння з Гарадка на ровары Мішка, я кажу — падвязі! А Мішка кажа: «Сядай!» А тата выбег і кажа: «Злазь і бяжы да цёці Марусі праз Гляднёўку, каб хутчэй!» І я пабег. А Мішка мяне яшчэ сёння пакатае на ровары...

Хлопчык з сумам азірнуўся.

Маці ўбачыла, штс больш нічога не выцягне з малога, успомніла, што сядзець ёй цяпер нельга, і ўзнялася.

221



 

# ТРЫБУНА чытачоў

## Спаборніцтва трактарыстаў

У канцы сакавіка на злёце трактарыстаў у Гайнаўцы адбылося падсумаванне вынікаў спаборніцтва трактарыстаў, якое было арганізаванае ў мінулым годзе Павятовым праўленнем сельскагаспадарчых гурткоў. Да спаборніцтва за назву найлепшага трактарыста прыступіла 42 асобы. На кожнага з удзельнікаў конкурсу ў сярэднім выпала на адзін трактар 1262 гадзіны працы.

Званне найлепшага трактарыста і першую узнагароду — электрычную машынку для брыцця атрымаў Хведар Міхалюк з Карыціск, які працуе ў сельскагаспадарчым гуртку ў Пасечніках Вялікіх. Другую ўзнагароду — партфель са скуры ўручана Івану Паўлючуку з Курашава. На трэцяе месца закваліфікаваўся Іван Дзмітрук, таксама з Курашава. Усе ўдзельнікі конкурсу атрымалі рэчавыя ўзнагароды.

6 найлепшых трактарыстаў паедзе на ваяводскі злёт трактарыстаў.

Падобны конкурс Павятовае праўленне сельскагаспадарчых гурткоў у Гайнаўцы плануе арганізаваць і ў гэтым годзе.

У арганізацыі конкурсу, кантролі вынікаў і падсумаванню яго многа ўлажыў працы інструктар да спраў механізацыі Аляксей Васькевіч з Павятовага праўлення сельскагаспадарчых гурткоў.

*Віталі Назарук*
Гайнаўка



*На здымку Аляксей Васькевіч.*

### ПАЧУЦЦЁ АШЧАДНАСЦІ

Пачатковая школа ў Плянце (Гайнаўскі павет), якой кіруе Аляксандр Самойлік, ад наймалодшых гадоў развівае ў вучняў пачуццё ашчаднасці.

Тут усе вучні складаюць грошы на ашчадную кніжку. Сума ашчаднасці на дзень 3. III. г. г. складае 16 540 зл., у тым вучнёўскія ўклады 14 030 зл. Сума не малая, калі ўзяць пад увагу тое, што ўсіх вучняў у школе толькі 30. У сярэднім выпадае на аднаго вучня па больш чым 400 зл. У галіне ашчаднасці 4-класная школа ў Плянце адна з першых сярод такіх у павеце.

Вучні зарабілі больш 2 000 зл. з продажу макулятуры, бутэлек, металалому і рэшту ў школьнай краме.

За кошт ашчаднасці выедуць у час летніх канікул на экскурсіі і падарожжа па Польшчы. Асаблівых поспехаў у ашчаднасці дабіліся Бажэна Шкопэк, якая мае ўжо на ашчаднай кніжцы 1 334 зл.

**Янка Цялушэцкі**
Новае Ляўкова

### СОРАМНА ПІСАЦЬ

Ласінскі прыпынак ПКС знаходзіцца ў адлегласці 500 метраў ад вёскі. Каб было дзе схавацца ад ветру, дажджу ці снегу вучні ласінскай школы на чале з кіраўніком Сяргеем Бароўскім зрабілі пачакальню. Школьнікі VI-га і VII-га класаў прынеслі кожны па адной дошцы і прыступілі да будовы буды-пачакальні. Людзі дзякавалі настаўніку і вучням за гэтую добрую прыслугу.

Здавальненне гэта доўга не працягвалася. Знайшліся такія варвары, якія абдзерлі папу з будкі, абарвалі дошкі, а ўсярэдзіне набрудзілі, і стала ў пачакальні як у хляве. Аж сорамна пісаць, што ёсць у нас такія бескультурныя людзі, якія знішчылі працу дзяцей і патрэбную будку для падарожных.

**Аляксандр Керсноўскі**
Ласінка




### НАША ПОШТА

Англія. Манчэстар. А. Мурашка.

Паведамляем Вас, што рэдакцыя «Нівы» не займаецца ані падпіскай, ані высылкай свайго часопіса. Гэтым займаецца пошта і прадпрыемства «Рух». Падпіскай і высылкай заграніцу займаецца Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch", Warszawa ul. Wronia 23.

Прэтэнзіі адносна таго, што замест «Нівы» прысылаюць Вам польскія газеты, накіроўвайце па вышэй указанаму адрасу.

### У НАВАКОРНІНЕ

Нядаўна адбыўся справаздачна-выбарчы сход у сельскагаспадарчым гуртку ў Навакорніне. Як вынікала з даклада, які прачытаў бухгалтар Янка Раманюк, гуртук у 1965 годзе выпрацаваў 13 500 зл. чыстага даходу. Новае праўленне сельгасгуртка ўзначаліў Уладзімір Куптэль.

**Янка Васілюк**
Навакорнін

## Дубяжынскія дзяўчаты

Многа гаворыцца аб дубяжынскіх дзяўчатах у аколіцы. Кожны іх ведае. Папулярнасць сабе здабылі не так за прыгожасць, як за песні. Цудоўна спяваюць. Песня выпаўняе іх вольныя хвіліны. З'яўляецца неразлучнай сяброўкай на патанцоўках, на вуліцы можна яе пачуць.

У Дубяжыне існуе мастацкі калектыў. Апошнім часам самадзейнікі арганізавалі шмат пастановак, між іншым: «Валодзеў гальштук», «Прымакі», «Боты», «Выбух» і «Шпедзы» (польская п'еса). Выступалі ў сваёй вёсцы. Наведалі таксама Крывую і Краснае Сяло. Усюды сустракаліся з цёплым прыёмам. У канцэртах выконваліся і песні. Выступалі ў дуэце дубяжынскія дзяўчаты: Галя і Валя Ваўрэнюк. Самадзейнікам у працы памагае кіраўнік мясцовай школы Сцяпан Стрэльчук і сяброўка Оля Томчук (настаўніца з Крывой). Амбітным самадзейнікам не хапае толькі святліцы. Школа — маленькая. Малавата месца. А шкада. Дубяжынцам патрэбна святліца. Была б яна сапраўды цэнтрам культурнай працы і адпачынку.

**Мацейка**
Бельскі павет

## Тэлеперадачы з Варшавы і Мінска

Нядаўна да грамадскага клуба ў Арэшкаве мясцовы сельскагаспадарчы гурток купіў тэлевізар. Гэта было вялікім здарэннем у жыцці вёскі. Амаль цэлая вёска цяпер вечарамі прыходзіць у клуб, каб паглядзець тэлеперадачы польскага а таксама і беларускага тэлебачання. Сяляне аднак больш ахвотна глядзяць тэлеперадачы з Мінска, чым з Варшавы. Гавораць, што прыемней слухаць мову, якой гавораць штодзённа. З усіх перадач найбольш арэшкаўцы любяць глядзець кінафільмы на ваенную і таксама крымінальную тэму. Пасля кожнай такой кінакарціны паўстае багатая дыскусія. Можна тады пачуць розныя апавяданні з часоў II сусветнай вайны ці з першых гадоў народнай улады. Найменшую папулярнасць маюць сельскагаспадарчыя перадачы. Іх аглядаюць нямногія.

*«Зямляк»*
Арэшкава

## Недарабілі

Нядаўна ў Старым Корніне перарабілі брук. Некалькі дамоў знаходзіцца якіх сто метраў ад вёскі. Тут няма бруку. Асабліва вясной ці восенню тут многа балота. Часта прыходзіцца праязджаць самаходамі. Яны застрагаюць у балоце. Тады людзі, якія знаходзяцца ў самаходзе, убачыўшы капцы з саломаю, бяруць і носяць яе пад калёсы самахода. Але як гэта так можна? Забіраць з капцоў салому і выносіць яе на дарогу! Гэта ж салома змешваецца з балотам і засмечвае дарогу. А кожны гаспадар нашай вёскі дбае пра навакольную чысціню. Ён таксама хоча, каб было чыста і на дарозе. Ужо некалькі год жыхары нашай вёскі думаюць аб тым, як зрабіць там брук. У вёсцы маглі перарабіць брук, а гэты кусочак ніяк не могуць. Ці гэта так сапраўды цяжка?

**С. Шэшка**
Старое Корніна

---

**— Ну, то на табе лыжачку мёду! — накіравалася на кухню да паліцы, дзе стаяла банка.**

**Па дарозе маці ўявіла сабе цэлую зграю паліцыянтаў, якія на веласіпедах імчаць па яе з Гарадка, забылася, куды ішла, пляснула рукамі:**

**— Ах, бо-ожа, што цяпер бу-удзе!..**

**— Якось будзе, — суцешыла Кірыліха. — Нябось. Нічыпар твой не дурны, ведае, што кажа!**

**Маці быццам першы раз яе ўбачыла.**

**— Цёцю-у, а наша Жучка прывяла чатыры шчаняты, і ўсе сучкі, — напомніў аб сабе пасмялелы малы. — І нікога да буды не падпускае: ні таты, ні мамы, ні курэй, ні Люські, аднаго мяне...**

**— Ой, Лёнічак, бяжы хутчэй, дзіцятко, адгэтуль, а то і цябе яшчэ зловяць!**

**Хлопчык знік. Маці замітусілася па хаце, трывожна заенчыла:**

**— А-ей, я яшчэ нават свінням не давала! І каровы з авечкамі яшчэ парацца ў хляве! Пастух сёння чагосьці як на тое позніцца!..**

**— Манька, чорт іх бяры са свіннямі, з каровамі, будзеш жыць, то будуць другія. Лепш сама сябе ратуй! Уцякай хутчэй з хаты, каб цябе тут не засталі!**

**— А-ей, цё-отачку, і сама ведаю, што мне трэба ўжо бегчы, ды ніяк не адважуся! Гэта ж — у лес!**

**— Нічога, нічога. З лесу вяртаюцца, з пяску ніколі!**

**Перад маці раптоўна ўзніклі агромныя зарослыя абшары.**

**— Але як ён мяне там знойдзе?! А калі ноч прыйдзе, то што я адна рабіць бу-уду-у! — заплакала і бяссільна апусцілася на лаву.**

**— То ідзі пад мой хутар. Там у лазовых кустах пабудзеш, пакуль Нічыпар падыдзе. Вечарам гарачых бліноў напяку і прынясу...**

222

**— Бліноў... А хто таму цяпер пасылкі будзе пасылаць у Штутгоф, ён жа з голаду там памрэ!**

**— А ты нам толькі адрас пакінь, вышлем з Мілашкай!**

**Маці высмаркалася ў фартух, сабрала ўсю сваю волю.**

**— Не, цётку, цяпер пасылаць будуць мае браты. Во, калі і іх не дай бог забяруць, тады папрашу вас...**

**— Добра, добра, пашлём, калі трэба. А ты бяжы ўжо сабе, Маня, а то застануць цябе яшчэ тут у хаце гэтыя гіцлі, тады крыўдна будзе! На цёплую хустку! — цётка сарвала з цвіка вялізную байкавую палатніну з зялёнымі і сінімі клеткамі, накінула ёй на галаву і плечы.**

**— Ідзі!**

**На падворку маці азірнулася. Жаласлівым і збалелым голасам папрасіла:**

**— Цётачку, паадчыняйце хлявы, няхай жывёла ўцячэ, а то пагарыць!..**

**— Адкрыю, Манька, толькі бяжы!**

**— А курэй сабе пазабірайце!**

**— Палаўлю, пазабіраю, усё зраблю!**

**— А я лесам выйду ў ваш лазняк. Калі мой вернецца, то прыведзяце.**

**— І яго прывяду! А пакуль што свіней пакармлю, павыганяю ў поле. Мне, старой, нічога яны не зробяць, калі застануць. Скажу — солі зайшла пазычыць.**

**— Ну, спасібо вам, цётачку! Мо мы апошні раз... То дайце з вамі... — маці пашукала вусны бабкі, яны гучна і па-жаночы нязграбна пацалаваліся, Кірыліха яе пераражагнала, і маці адправілася.**

**ПРАЦЯГ БУДЗЕ**

223

---

# КІНО

**Праграма на 19—24 IV. 1966 г.**

### ГАЙНАЎСКІ ПАВЕТ

**Белавежа**

„Przyroda i my" (radz.), 19—20. „Mandacik proszę" (franc.), 21—22. „Obok prawdy" (USA), 23—24.

**Кляшчэлі**

„Bajka o zmarnowanym czasie" (radz.), 19—20. „Cena odwagi" (bułg.), 21—22. „Noc przedślubna" (czeski), 23—24.

**Дубіны**

„Późne popołudnie" (polski), „Człowiek I-ego stulecia" (czeski), 23—24.

**Нарва**

„Gładka skóra" (franc.), „Biały szejk" (włoski), 20—24.

**Нараўка**

„Człowiek z fotografii" (jugosłowiański). „Drewniany różaniec" (polski), 20—24.

**Чыжы**

„Ballada o dziewczynie" (wietnamski). „Inspektor Morgan prowadzi śledztwo" (angl.). 20—24.

**Дубічы Царкоўныя**

„Jest taki chłopak" (radz.), „Dwie strony medalu" (angl.), 20—24.

### БЕЛЬСКІ ПАВЕТ

**Боцькі**

„Strzał we mgle" (radziecki), „Spotkali się w pociągu" (radziecki). 20—24.

**Орля**

„Daleka jest d[illegible]a" (polski), „Skarb" (polski), 20—24.

**Райск**

„Wyższa zasada" (czeski), „Lekkoduchy i dziewczyna" (radz.), 20—24.

### БЕЛАСТОЦКІ ПАВЕТ

**Гарадок**

„Syn skazańca" (angl.), „Mam 20 lat" (radz.), 20—24.

**Міхалова**

„Najdroższa" (radz.), „Zdarzyło się to w Rzymie" (włoski), 20—24.

### СЯМЯЦІЦКІ ПАВЕТ

**Нурэц**

„Sztubackie kłopoty" (czeski), 19—20. „Ambicja" (radz.), 21—22. „Święta wojna" (polski), 23—24.

**Мілейчыцы**

„Spotkanie na przeprawie" (radziecki), 19—20. „Kapral i inni" (węgierski), 21—22. „Święta wojna" (polski), 23—24.

### САКОЛЬСКІ ПАВЕТ

**Крынкі**

„Mężczyźni na wyspie" (polski), 19—20. „Tak" (węgierski), 21—22. „Zdradzona ziemia" (radziecki), 23—24.

**Шудзялава**

„Dramat w kosmosie" (radz.), „Irena do domu" (polski), 20—24.

**Сідра**

„Wiosna we wrześniu" (czeski), 19—20. „Umarli milczą" (radz.), I s. 21—22. „Umarli milczą" (radz.), II s. 23—24.

**Сухаволя**

„Koniec naszego świata" (polski), „Jesienny dzień" (wietnamski), 20—24.

### ДУБРОЎСКІ ПАВЕТ

**Новы Двор**

„Całe złoto świata" (franc.), „Winda towarowa" (franc.), 23—24.

**Ліпск**

„Biedni bogacze" (węgierski), „Czapajew" (radz.), 23—24.

Ніва

Adres redakcji: Białystok, ul. Wesołowskiego 1. Telefony: red. naczelny 25-89, centrala 37-41 do 45. Warunki prenumeraty: miesięcznie — 2.40 zł, kwartalnie — 7.20 zł, półrocznie — 14.40 zł, rocznie — 28.80 zł. Prenumeratę przyjmują wszystkie placówki pocztowe i listonosze. Wpłaty na prenumeratę indywidualną należy dokonywać na konto PUPiK „Ruch" Nr 102-7-161 NBP Białystok i Oddział Miejski. Na odwrocie blankietu należy podać okres prenumeraty i tytuł zamawianego pisma. Zamówienia ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje — Przedsiębiorstwo Kolportażu Wydawnictw Zagranicznych „Ruch" Warszawa, ul. Wronia 23, Nr konta PKO 1-6-100024. Zamówienia z krajów europejskich jak i zamorskich należy kierować pod adresem CHZ „Ars Polona" Warszawa, Krakowskie Przedmieście 7. Obowiązuje przedpłata na konto NBP Warszawa 1-6-51. Prenumerata roczna wraz z przesyłką zwykłą wynosi 4.70 $ w Europie, 5 $ — w USA. Nakład 5458 Błtk 1039 D-3

 




ЯНУШ АСЕНКА

# Д'ЯБАЛ

*Неяк уначы з'явіўся да мяне д'ябал. Я ўжо даўно чакаў гэтага візіта, бо славіўся прыстойнасцю, на што ў пекле, як вядома, скоса пагляд аюць.*

*«Будзе мяне спакушаць, нячыстая сіла», — з непакоем падумаў я.*

*Але д'ябал усеўся выгодна ў крэсле, палажыў капыт на капыт і, пазяхаючы, глядзеў на мяне абыякава.*

*Усталявалася цяжкае маўчанне.*

*— Ты, напэўна, хочаш, каб я заняўся гаспадарчымі аферамі? — падказаў я, каб распачаць гаворку.*

*— Хочаш — займіся, не хочаш — не трэба, — адказаў д'ябал, спакойна выкалупваючы серку з-пад кіпцюроў.*

*«Падрыхтаваў для мяне, відаць, нейкую сатанінскую штуку», — мільганула ў мяне палахлівая думка.*

*Д'ябал усё не выказваўся.*

*— Павінен што-небудзь украсці? — запытаўся я.*

*— Твая справа, — коратка буркнуў ён.*

*— Можа ты задаволіўся б, каб я стаў алкаголікам?, — спрабаваў я здагадацца.*

*— Рабіся сабе алкаголікам, — адказаў д'ябал. — Перашкаджаць табе не буду.*

*— А-а... Зразумеў! — ускрікнуў я з трыумфам. — Хочаш штурхнуць мяне ў распусту. Паўцемра, узбуджальная музыка, шаленства пачуццяў...*

*— Э-э-э, якое там шаленства, — пагардліва махнуў ён рукой. — Нудна!*

*— Нудна? — здзівіўся я. — Як каму, а мне, быць можа, і вельмі прыемна!*

*— Прабачай, але хто тут каго павінен спакусіць? — напомніў мне д'ябал.*

*— Сапраўды, — спахапіўся я. — Гэта ж ты павінен мяне спакусіць, каб я саграшыў.*

*— Ну, гэта як мне ўздумаецца, — сказаў д'ябал. — Хочаш — грашы, не хочаш — не грашы. Гэта мяне не датычыць!*

*— Змянілі сістэму платы. Раней плацілі мне ад спакушанай душы, а зараз перавялі на сталы аклад, — паведаміў д'ябал, сплюнуўшы смалу.*

*— Фю-й... — аж свіснуў я, пачуўшы гэту навіну. Адчуў, што шанц награшыць мінае мой нос, аддаляецца і знікае.*

*— Падпішы мне камандзіроўку, — папрасіў д'ябал, падсоўваючы мне паперу з надрукаваным: «Прыбыў...», «Выбыў...» і «Подпіс спакушанага».*

*Калі я падпісаў, д'ябал схаваў паперу ў кішэню куртатага фрака і падаў мне руку.*

*— Знікаю!*

*— Але ж певень не спяваў! — заўважыў я.*

*Замест сатанінскага рогату д'ябал толькі ўсміхнуўся і знік.*

*Так, дзе ён стаяў перад тым, нікога ўжо не было і нават не чулася паху ні серкі, ні смалы.*

Пераклаў з польскай мовы
*В. ЛЯШЭВІЧ*

### ДЫЯГНОЗ

Урач на абходзе:

— А гэты хворы зляцеў з высокай пасады і ў яго цяпер зрушэнне мазгоў.

### БЛАГІ ЎПЛЫЎ

Нейкі ўсходні ўладар наведаў турму, у якой знаходзілася 20 вязняў. На яго пытанне, за што пакараны, 19 паскардзіліся, што сядзяць без віны ці праз судовую памылку, а адзін прызнаўся, што сядзіць за крадзеж. Уладар загадаў:

— Зараз жа адпусціць злодзея на волю, каб не зрабіў благога ўплыву на ўсіх астатніх прыстойных і сумленных людзей!

### СУЦЕШЫЛА

Маці дачцы:

— Толькі пазнаёміліся і ўжо хочаш за яго замуж пайсці.

— Ды не, мама, цяпер я хачу за другога...

### НЯЗРУЧНАСЦЬ

— Дык вы размаўляеце ў сне? — перапытаў урач хворага. — Але калі вы жывяце адзін, то гэта нікому не замінае.

— Ваша праўда, — адказаў хворы, — але мае таварышы па службе з мяне смяюцца.

### СУЦЯШЭННЕ

— Тата, — кажа маленькі Міколка, — у задачы, якую ты мне ўчора рашыў, ёсць памылка.

— Ды што ты кажаш? Вось бяда!

— Не бяры гэта блізка да сэрца, іншыя таты таксама не здолелі яе рашыць.

### ЦІКАЎНЫ ЖУРНАЛІСТ

Журналіст звяртаецца да палкоўніка:

— А колькі ў вашым палку гармат?

— Гэта ваенная тайна, — усміхаецца ў адказ палкоўнік.

— О! Тады гэта вельмі цікава. Раскажыце аб гэтым падрабязней, калі ласка.




Часам словы мацнейшыя за палючую пугу.

*

Неданошаныя намеры падобныя да недаспелых яблык.

*

Крык — азнака слабых нерваў.

*

Змярканне ёсць заканчэннем працавітага дня і пачаткам спакойнай ночы.

*

Недаразумленні цяжка вытлумачальныя: каб можна было іх вытлумачыць, не было б недаразумленняў.



*Калі ўзнагароджваецца калектыў...*



*Калі адказвае калектыў...*

Часам важна не тое, што гавораць, а хто пра тое гаворыць.

### НЕ ТАГО ЧАКАЛА

Дырэктар да сакраткі:

— Сёння ўвечары вы не заняты?

— О не, пане дырэктар.

— Тады кладзіцеся спаць раней, каб заўтра не спазніліся на працу.





Без слоў.

### У КОЖНАГА — СВАЁ

У Адама, магчыма, былі свае непрыемнасці, але яму ніколі не даводзілася чуць ад Евы расказаў пра ўсіх тых мужчын, за якіх яна магла б выйсці замуж.

### У ПЕРШЫМ КЛАСЕ

— Колькі будзе, калі восем падзяліць папалам?

— Калі ўздоўж, дык тры, а калі ў шырыню, то нуль.

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе Зіны і Валі з Гайнаўскага павета, Нэлі Харкевіч з Гайнаўкі і Валі Новік з Лукі,. Гайнаўскага павета змяшчаем на польскай і рускай мовах песню п. з.

## Czarny kot




Od małego miał pecha ten kot,
Prześladował go każdy co krok,
Lecz piosenka nie o tym, o nie,
Jak czarnemu kotkowi jest źle.

Mówią, nie poszczęści się.
Czarny kot ci przeszedł drogę — będzie źle,
Jest na opak, wierzcie, że,
To czarnemu kotu tak nie wiedzie się....

Gonił kota każdy kto mógł.
Wszędzie koci czaił się wróg,
Lecz piosenka nie o tym, o nie,
Jak czarnemu kotkowi jest źle.

Mówią, nie poszczęści się... itd.

Nawet kotkę, gdy spotkać miał kot chęć
Kilometrów na randkę szedł pięć,
Lecz piosenka nie o tym, o nie,
Jak czarnemu kotkowi jest źle.

Mówią, nie poszczęści się... itd.

Najczarniejszy był koci ten los,
Aż po czarne i wąsy, i nos,
Lecz piosenka nie o tym, o nie,
Jak czarnemu kotkowi jest źle.

Mówią, nie poszczęści się... itd.

## ЧЁРНЫЙ КОТ

Жил да был чёрный кот за углом.
И кота ненавидел весь дом,
Только песня совсем не о том,
Как не ладили люди с котом.

Говорят не повезёт,
Если чёрный кот дорогу перейдёт,
А пока наоборот,
Только чёрному коту и не везёт.

Не везёт, не везёт!

Целый день во дворе суета,
Прогоняют с дороги кота,
Только песня совсем не о том,
Как охотился двор за котом.

Говорят не повезёт... и т. д.

Даже с кошкой своей за версту
Приходилось встречаться коту,
Только песня совсем не о том,
Как мурлыкала кошка с котом.

Говорят не повезёт... и т. д.

Бедный кот от усов до хвоста
Был черней, чем сама чернота.
Да и песенка вобщем о том,
Как обидно быть черным котом.

Говорят не повезёт... и т. д.

 